*І сэрцам палюбіў я гэты кут — цябе, мой старадаўні родны Слонім.*

*Алег Лойка*

# Слонімскі край



2018, № 2(24). Люты

## Зіма ў Слоніме, 1916-1917 гады



***Малы канал Агінскага***

*Працяг на ст. 4.*

## 70 гадоў таму ў Слоніме быў створаны народны тэатр

Тэатральны рэжысёр Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім у лістападзе 1948 года. Горад пасля Другой сусветнай вайны яшчэ ляжаў у руінах, але развешаныя ўсюды афішы паведамлялі пра першы спектакль толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага гуртка. Кіраўніком гуртка тады быў дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921 — 1985). У Слоніме Бялоў жыў да 1956 года, а пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста БССР. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка, у 1951 годзе Аляксандр Бялоў



***Калектыў Слонімскага народнага тэатра, 1960-я гады. Трэці справа ў другім радзе Міхаіл Фрыдман.***

быў узнагароджаны дыпломам на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі “Вяселле з пасагам” па п’есе М. Дзяканава і Швандзі ў спектаклі “Любоў Яравая” па п’есе К. Трэнёва.

*Працяг на ст. 10.*

*ХРОНІКА*

# Пачалася падрыхтоўка да святкавання 550-х угодкаў з'яўлення Жыровіцкай іконы Маці Божай





Фота: minds.by

У лютым было абвешчана пра пачатак падрыхтоўкі да святкавання 550-х угодкаў з'яўлення Жыровіцкай іконы Маці Божай, якія прыпадаюць (паводле аднной з версій) на 2020 год. Тады ж будзе адзначана і 500-годдзе заснавання манастыра. Першае пасяджэнне аргкамітэта прайшло ў Жыровічах з удзелам мітрапаліта Паўла, кіраўніка Беларускай Праваслаўнай Царквы. Пра яго паведамілі ўсе рэспубліканскія СМІ, якія адзначалі, што Жыровіцкая ікона — гэта святыня нацыянальнага маштабу.

У рамках падрыхтоўкі да святкавання ў Жыровічах пройдуць будаўнічыя і рэстаўрацыйныя працы. У прыватнасці, у манастыры збіраюцца пабудаваць званіцу.

А 12 лютага ў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах у царкоўна-археалагічным музеі адкрылі чарговую залу. У ёй, між іншым, прадстаўлены матэрыялы археалагічных раскопак, якія праводзіліся на тэрыторыі манастыра ў 2007 годзе. У экспазіцыі ёсць і факсімільная копія Жыровіцкага евангелля, рукапіснага помніка XV стагоддзя, які захоўваецца ў Вільні.

# У Слоніме з'явіўся помнік-гармата



У пачатку лютага каля ваенкамата па вуліцы Брэсцкай з'явіўся помнік-гармата. Яго ўсталявалі да 100-годдзя Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, дата дзіўная, і не толькі таму, што РБ існуе з 1991 года. Можна падумаць, што ў нашых продкаў не было свайго войска — ні ў Полацкім княстве, ні ў ВКЛ, ні ў Рэчы Паспалітай, ні ў БНР. Паранейшаму беларускія сілавыя структуры, падраздзяленні знаходзяць даты свайго заснавання выключна ў савецкім перыядзе. Адсюль і адпаведная атрыбутыка.

# Уцёкі групы слонімцаў з СССР зімой 1940 года

Пра гэтую проста неверагодную гісторыю распавёў былы слонімец Збігнеў Равінскі (Zbigniew Rawiński). У пачатку 1940 года некалькі дзясяткаў жыхароў Слоніма рызыкнулі збегчы з Савецкага Саюза. Справа была зімой, калі стаялі мацнейшыя маразы. Але гэта не спыніла людзей, у якіх з сабой былі малыя дзеці. Уцёкі адбыліся перад масавай дэпартацыяй насельніцтва ў лютым 1940-га, якую праводзілі савецкія ўлады. Тады ў Сібір высылалі пераважна палякаў, цэлымі сем'ямі, але было рэпрэсавана і нямала беларусаў.

Слонімцы ўцякалі ад бальшавікоў яшчэ восенню 1939 года: адны — у Польшчу, якая трапіла пад нямецкую акупацыю, іншыя — у Літву, якая да лета 1940-га была незалежнай дзяржавай. Найперш на такі крок ішлі тыя, хто працаваў у польскай адміністрацыі, служыў у паліцыі, войску, а значыць мог трапіць пад савецкія рэпрэсіі. Менавіта страх перад арыштам прымушаў людзей кідаць сваю маёмасць і ратавацца. Уцякалі за мяжу былыя ўдзельнікі антысавецкай партызанскай барацьбы, якія з 1920-х гадоў жылі ў Польшчы (беларусы, рускія, украінцы). Тыя з іх, хто застаўся, былі арыштаваныя. Туды ж падаваліся нашыя землякі, якім магчыма не пагражаў арышт, але яны не маглі выцярпець савецкую рэчаіснасць. Былі выпадкі, калі сем'і падзяліла мяжа і яны спрабавалі аб'яднацца. Нешта падобнае адбылося са слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам, які перабраўся ў Варшаву, а яго жонка адтуль ужо выехала ў Слонім, і яны размінуліся ў дарозе.

У канцы студзеня ці ў пачатку лютага 1940-га некаторыя слонімцы нейкім чынам даведаліся пра запланаваную дэпартацыю. Некалькі сем'яў вырашылі тэрмінова ўцякаць. На жаль, вядомыя прозвішчы не ўсіх. Сярод уцекачоў была сям'я Збігнева Равінскага, якому тады было 7 гадоў: бацька, маці, двое сыноў. Яны жылі ў раёне Шасейнай вуліцы. Да іх далучыліся 4-5 сем'яў, а сярод іх Урліхі (з бацькамі было трое дзяцей — Тэрэза, Данута і Рышард). Яны шчасліва выбраліся са Слоніма і на цягніку дабраліся да Беластока, праз які даехалі да Лап.



*Нарад савецкіх памежнікаў на мяжы з Германіяй, зіма 1940 года.*

Да мяжы яшчэ было далёка. Нейкім чынам слонімцам удалося знайсці коней, гэта аблегчыла ім далейшы шлях. Некалькі кіламетраў давялося ісці праз лес па снезе. Была ноч. "Памятаю страх, калі хтосьці кашляў", — успамінае Равінскі. Нарэшце яны дайшлі да нейкай рэчкі і перайшлі яе па лёдзе. Такім чынам, яны апынуліся на тэрыторыі, якую кантралявалі немцы.

Гэта проста цуд, што па дарозе такая вялікая група ўцекачоў не натрапіла на савецкіх памежнікаў. Яны ў той час лавілі нямала перабежчыкаў і лёс іх быў незайздросны.

Слонімцы спыніліся адпачыць у адным доме ў Зарэмбах Касцельных у Мазавецкім ваяводстве. Хтосьці, відаць, данёс, бо праз нейкі час з'явіўся нямецкі патруль. Урліхі, якія паходзілі з Усходняй Прусіі, выдатна гаварылі па-нямецку і патлумачылі сітуацыю з нелегальным пераходам мяжы. Такім чынам удалося легалізавацца.

Равінскія дабраліся да Варшавы. Бацька Збігнева загінуў у нямецкім канцлагеры, старэйшы брат — падчас Варшаўскага паўстання ў 1944-м, маці памерла амаль адразу пасля вайны. А Збігнеў Равінскі застаўся жыць у Польшчы.

Гісторыя з уцёкамі вартая экранізацыі. Магчыма, у будучыні хтосьці ажыццявіць гэты праект.

●***Генадзь Гурскі***

# Зіма ў Слоніме, 1916-1917 гады

*Працяг, пачатак на ст. 1.*

Дзякуючы аднаму кайзераўскаму афіцэру Першай сусветнай вайны да нас дайшлі вось гэтыя раней невядомыя фотаздымкі зімовага Слоніма 1916-1917 гадоў. Як вядома, наш горад быў пад немцамі амаль 40 месяцаў. Яны абжыліся тут упэўнена і хутка. Па фотаздымках бачна, колькі розных будынкаў яны набудавалі ў ваколіцах Слоніма. Але да нашага часу ніводзін з іх не захаваўся.

Кайзераўскія салдаты добра кантактавалі з мясцовым насельніцтвам, фатаграфавалі слонімцаў, здымалі вуліцы горада над Шчарай, свае будынкі, фіксавалі слонімскую прыроду. Адначасова яны паспешна высякалі лес і вывозілі яго ў Германію, а дзеля гэтага ім дапамагала мясцовая рабочая і цяглавая сіла.

Па фотаздымках бачна, якая ў той час на Слонімшчыне была зіма — снежная і марозная. І просты люд, і вайскоўцы вольна ездзілі на санях, каталіся на лыжах, лавілі рыбу на замерзлай Шчары і Малым канале Агінскага.

Серыю здымкаў Слоніма 1916-1917 гадоў прапануем увазе чытачоў "Слонімскага краю".

●***Сяргей Чыгрын***









***Здымкі, верагодна, зробленыя на ўскраінах Слоніма.***



***Расчыстка снегу на лёдзе каля бернардынскага касцёла (цяперашняга сабора св. Тройцы).***



***Мост на Шчары.***









***Здымкі, магчыма, зроблены ў Альбярціне. На ніжнім з іх бачым, як пад аховай нямецкіх жаўнераў працуюць ваеннапалонныя.***

# Слонімскі футбол у міжваенны час (1920-1930-я гады)

*Працяг, пачатак у № 10(20), 2017 г., № 1(23), 2018 г.*



**Фота: audiovis.nac.gov.pl**

У першых двух частках нашага нарысу быў ахоплены перыяд да 1925 года ўключна. У той час футбольныя каманды існавалі ў Слоніме, Альбярціне і Жыровічах. Найлепшымі лічыліся WKS 79 pp Słonim (Вайсковы спартыўны клуб 79-га пяхотнага палка) і Kł. Sp. Szkoły Roln. Żyrowice (Спартыўны клуб сельскагаспадарчай школы ў Жыровічах). Матчы праходзілі на гарнізонным стадыёне ў раёне цяперашняй вуліцы Чарняхоўскага. Тады казалі, што матч прайшоў на стадыёне "на Скробаўскай". Гэта самая старажытная назва цяперашняй Чырвонаармейскай вуліцы.

Удалося ўдакладніць час заснавання WKS 79 pp Słonim — 24 чэрвеня 1921 года. Ад пачатку ён спецыялізаваўся на футболе і лёгкай атлетыцы.* Верагодна ў 1922 годзе быў пабудаваны гарнізонны стадыён. У тым годзе іх будавалі ў многіх гарадах, дзе былі вайсковыя часткі і "практычна кожны гарнізон" меў "хаця б прымітыўны спартовы стадыён".**

**1926**

Калі верыць польскаму даследчыку Яну Гаксіньскаму, у тым годзе адразу дзве слонімскія каманды выступалі ў "клясе Б" першынства Віленскай акругі.*** Ён згадвае WKS 79 pp Słonim і ŻKS Słonim (Żydowski Klub Sportowy, Яўрэйскі спартыўны клуб). Аднак гэта варта яшчэ праўдзіць, паколькі ў тагачаснай спартыўнай прэсе пацверджання знайсці не ўдалося (праўда, і ўвага да матчаў "клясы Б" у журналістаў была невялікая). У Віленскай акрузе ў "клясе А" выступалі шэсць каманд: 4 — з Вільні, па 1 — з Гродна і Беластока.

Футбольны сезон 1926-га ў Слоніме стартаваў у красавіку. У нядзелю, 25 красавіка, ў Слоніме прайшлі два футбольныя матчы. Спачатку гулялі Szkoła Rolnicza (Żyrowice; Жыровіцкая сельскагаспадарчая школа) і WKS 80 pp Słonim (Вайсковы спартыўны клуб 80-га пяхотнага палка, Слонім). Матч скончыўся ўнічыю 5:5. У іншым паядынку сустракаліся каманды Szkoła Rolnicza II (Żyrowice) і Balladyna (зборная дзяржаўнай гімназіі, Слонім, пра яе мы згадвалі ў мінулай публікацыі). Другі склад жыровіцкіх футбалістаў выйграў з лікам 2:1. Найлепшым гульцом паядынкаў прызналі Даманьскага з жыровіцкай школы (ён добра гуляў і ў сезоне 1925 года). Вядома, што на футбол прыйшло некалькі соцень слонімцаў.

У пачатку траўня 1926 года ў нашым горадзе прайшоў матч, у якім прынялі ўдзел наймацнейшыя на той час на Слонімшчыне футбалісты. Сустракаліся Reprezentacja klubów Wojskowych (Зборная вайсковых клубаў) і Szkoła Rolnicza (Żyrowice). Відаць, у паядынка была добрая рэклама — паглядзець футбол на гарнізонны стадыён прыйшло шмат людзей, значна больш, чым на звычайны матч. Жыровіцкія хлопцы былі тэхнічнымі, але гэтую перавагу не змаглі пераўтварыць у галы. А вось вайскоўцы былі больш моцныя фізічна. У першым тайме зборная вайсковых клубаў забіла адзін гол, а ў другім — яшчэ тры. Агульны лік — 4:0.

У справаздачы з паядынку адзначалася, што гульню судзіў нейкі пан Віш (J. Wisz). І ён не змог прыхаваць сваю сімпатыю да вайсковай каманды, у спрэчных сітуацыях прымаў рашэнні на яе карысць. Гэта прывяло да таго, што на 75-й хвіліне матч быў спынены. Відаць, жыровіцкія футбалісты альбо сышлі з поля, альбо напалі з прэтэнзіямі на суддзю. Дакладна невядома, ці гульня была працягнутая, ці скончылася за 15 хвілін да фінальнага свістка.

Як бы там ні было, а вайскоўцы ў чарговы раз даказалі, што яны наймацней-

шыя на Слонімшчыне. Праўда, у тым годзе у іх з'явіўся новы канкурэнт. У сярэдзіне 1920-х у Слоніме стварылася некалькі яўрэйскіх спартыўных клубаў, якія ў асноўным займаліся футболам. На яго папулярнасць сярод яўрэйскай моладзі паўплывалі якраз матчы вайскоўцаў. Аднак клубы не былі шматлікія (таксама як і "хрысціянскія" грамадзянскія клубы). Напрыклад, у склад ŻKS Słonim (Żydowski Klub Sportowy) уваходзіла каля 50 маладых мужчын. У 1926-м быў заснаваны спартыўны клуб "Kraft" ("Сіла", пазней — "Hapoel" — "Работнік").****

15 жніўня ў Слоніме прайшоў таварыскі матч паміж мясцовым ŻKS і Makabi (Baranowicze). Слонімцы атрымалі перамогу з лікам 6:4 (3:1). Найлепшымі ў ŻKS былі Вільдман (Wildman) і Равіцкі (Rawicki), першы з іх забіў усе шэсць галоў! Судзіў паядынак паручнік Пятрушка (Pietruszko; Пятрашка?) і атрымалася ў яго вельмі добра.

11 верасня ў Слоніме адбыўся таварыскі матч паміж ŻKS Słonim i Reprezentacja drużyn cywilnych m. Słonima (зборнай грамадзянскіх каманд г. Слоніма). Яўрэйская каманда выйграла з лікам 6:4 (2:2). Гульня была цікавая, футбалісты ŻKS добра камбінавалі. І гэта пры тым, што каманда была ў аслабленым складзе. Атакуючы паўабаронца Шухтовіч (Szuchtowicz) выехаў у Лодзь, з нейкай прычыны не гулялі Равіцкі і Каплінські (Kapliński). Сведка таго паядынку пісаў, што яго добра судзіў нейкі пан Грыгарэвіч (Grygorewicz).

У пачатку кастрычніка ў Слоніме адбыўся матч паміж WKS 79 pp і ŻKS. Ужо на 5-й хвіліне ў браму вайскоўцаў прызначылі пенальці. Мяч узяў Шчыгельські (Szczyglelski), які прабіў няўдала — у рукі брамніку. WKS пасля гэтага ўзяў гульню пад свой кантроль і хутка забіў тры галы (праўда, адзін з відавочнага "па-за гульнёй"). Першы тайм скончыўся з лікам 3:0. Пасля перапынку Каплінські забіў гол у адказ. Выратаваць гульню ŻKS не змог, ды яшчэ прапусціў гол у канцы паядынку. Вынік — 4:1 на карысць вайскоўцаў, якія даказалі, што ў Слоніме яны па-ранейшаму наймацнейшыя. У WKS найлепшымі гульцамі былі Бараноўскі (Baranowski) і Паўліцкі (Pawlicki), у ŻKS — браты Рувіцы (Ruwiccy) і брамнік. Судзіў матч пан Гамуд (Hamud) і судзіў "вельмі слаба", адзначае "Przegląd Sportowy". Гэта апошні вядомы нам паядынак слонімскіх футбольных каманд у 1926 годзе.

У снежні 1926-га была створана "Польская футбольная ліга" (вышэйшая ліга), якая складалася з 14 клубаў. Было вырашана, што яны правядуць чэмпіянат у два кругі і выявяць чэмпіёна. Апошні клуб мусіў апусціцца ў "клясу А" (а яго рэзервовая каманда, фарм-клуб, аўтаматычна апускалася з "клясы А" ў "клясу Б"), а на яго месца — чэмпіён апошняй. У кожнай камандзе лігі вызначаліся 8 гульцоў, якія не мелі права гуляць у матчах "клясы А". У кожнай акруговай "клясе А" мусілі быць 6 клубаў і фарм-клубаў каманд лігі. Чэмпіёнства "клясы А" разыгрывалі акруговыя чэмпіёны. Калі перамагаў фарм-клуб, то акруговы чэмпіянат прадстаўляла другая каманда.

Польскі футбольны саюз быў супраць гэтых зменаў, узнік канфлікт, апагей якога прыпадае на 1927 год.

*Працяг у наступных нумарах*

**●Сяргей Ёрш**

**Wojskowy rocznik sportowy na rok 1922. Warszawa, 1922. C. 72.*

***Wojskowy rocznik sportowy na rok 1923. Warszawa, 1923. C. 95.*

****Goksiński J. Klubowa historia polskiej piłki nożnej do 1970 roku // http://www.goxo.pl/hp-sup-13.pdf*

*****Żydowskie życie sportowe w Słonimie // http://shtetlroutes.eu/pl/zydowskie-zycie-sportowe-w-slonimie/#*




***У Польшчы выдадзена нямала даведнікаў, прысвечаных футболу ў міжваенны час. Аднак пра слонімскія клубы там інфармацыі зусім няшмат.***

***НАГОДА***

# 70 гадоў таму ў Слоніме быў створаны народны тэатр

*Працяг, пачатак на 1-й ст.*

У 1948 годзе Аляксандр Бялоў разам з Міхаілам Фрыдманам паставілі ў Слоніме свой першы спектакль “Шляхі-дарогі” па п’есе А. Фёдарава. Менавіта на гэтую прэм’еру клікалі слонімцаў развешаныя ўсюды афішы. Дарэчы, Міхаіл Фрыдман прыехаў у Слонім, маючы за плячыма вялікі тэатральны вопыт. Родам ён быў з Варшавы, дзе з’явіўся на свет 29 сакавіка 1894 года. У 1910-1927 гадах вандраваў па Украіне і Беларусі як акцёр з яўрэйскімі вандроўнымі тэатральнымі трупамі, а таксама скончыў маскоўскую тэатральную студыю “Свабоднае мастацтва”. Дарэчы, у 1932 годзе група студэнтаў тэатральнага вучылішча пры Маскоўскім дзяржаўным яўрэйскім тэатры, якія займаліся на курсе народнага артыста СССР С. Міхаэлса, заявілі аб сваім жаданні пасля заканчэння вучобы паехаць на Далёкі Усход, каб стварыць там малады Яўрэйскі абласны нацыянальны тэатр. У складзе тэатральнай групы рэжысёра Марка Рубінштэйна быў і Міхаіл Фрыдман са сваёй жонкай.

А пасля вайны Фрыдман 18 гадоў жыў і працаваў у Слоніме. Менавіта ён узначаліў у тыя першыя пасляваенныя гады тэатральны гурток Слонімскага РДК, а Аляксандр Бялоў быў кіраўніком танцавальнага гуртка. Вопытны рэжысёр Міхаіл Фрыдман сур’ёзна працаваў над першым спектаклем, хаця яму было даволі цяжка — не хапала дэкарацый, касцюмаў. Выручала толькі адно: для ўсіх патрэбны былі толькі вайсковыя мундзіры. А іх дастаткова пакінула вайна.

Тады, у 1948 годзе, драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру самадзейных артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур’ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. Колькі пакут творчасці, памылак і расчараванняў пераносіў кожны артыст, пакуль іх гульня рабілася сапраўднай, пакуль кожны самастойна выходзіў на сцежку ўпэўненасці. Але рос талент артыстаў. Ён мацнеў на рэпетыцыях, раскрываўся ва ўсёй сваёй сіле на сцэне і гастролях.

У Слоніме ў драматычным гурку, з першых яго крокаў, была абвешчана бязлітасная барацьба з дылетанцкімі захапленнямі, абыякавымі адносінамі да заняткаў у гуртку. У пакоі, дзе праходзілі рэпетыцыі гуртка, знаходзіўся вялікі партрэт К. Станіслаўскага, а ўнізе яго словы: “Любі мастацтва ў сабе, а не сябе ў мастацтве”.



***Перад паездкай на гастролі. Трэці злева Міхаіл Фрыдман. Слонім, 1952 г.***

За час знаходжання ў Слоніме Міхал Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі 27 спектакляў, сярод іх былі і лепшыя – “Выгнанне блудніцы” І. Шамякіна, “Вяселле з пасагам” М. Дзяканава, “Любоў Яравая” К. Транёва, “У добры час” В. Розава, “Кухарка замужам” А. Сафронава, “Жаніцьба Бялугіна” А. Астроўскага, “Апошнія” М. Горкага, “Нячыстая сіла” Г. Стафанскага, “У бэзавым садзе” Ц. Саладара і многія іншыя. А ў 1959 годзе драматычны гурток Слонімскага РДК атрымаў званне народнага тэатра.

У пачатку лютага 1964 года слонімскія артысты прывезлі ў Мінск спектакль “Апошнія” па п’есе Максіма Горкага. Прэм’ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны — Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя.

Зала тэатра была перапоўнена. Перад пачаткам спектакля перад гледачамі выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф'і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

Спектакль сталічным гледачам спадабаўся. Пра гэтую падзею напісалі амаль усе тагачасныя беларускія газеты. Пастаноўка таксама была паказана Мінскай студыяй тэлебачання. Тэатральны крытык Арсень Лабовіч у газеце "Знамя юности" 27 лютага 1964 года пісаў: "Дасягненне адзінства мастацкага стылю з'яўляецца пацвярджэннем высокага рэжысёрскага майстэрства пастаноўшчыка, кіраўніка Слонімскага народнага тэатра Міхаіла Фрыдмана. Усе выканаўцы аб'ядноўваюць свае намаганні вакол галоўнай ідэі спектакля — раскрыць перад гледачамі бесперспектыўнасць грамадскіх адносінаў, дзе чалавек чалавеку воўк. У гэтым — сучаснасць і актуальнасць пастаноўкі. Выканаўцы разумеюць, адчуваюць свае задачы, адчуваюць эпоху. Гэта добра. Разам з тым гэтыя індывідуальныя мэты не заўсёды зліваюцца ў агульную звышзадачу спектакля, у асобных сцэнах не хапае пачуцця ансамбля. Праўда, выключна вялікую дапамогу ў гэтым сэнсе аказала калектыву Вольга Уладзіміраўна Галіна. Сваёй выдатнай гульнёй яна не толькі ўзбагаціла калектыў сцэнічным вопытам, — яе выкананне нібы сцэментавала творчыя намаганні астатніх выканаўцаў вакол вобраза Соф'і".

За спектакль "Апошнія" калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама артыстка Вольга Галіна, атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.



*Калектыў Слонімскага народнага тэатра, канец 1950-х гадоў.*

Добра быў падрыхтаваны і меў поспех спектакль у пастаноўцы Міхала Фрыдмана "Глыбокая плынь" па п'есе Івана Шамякіна. П'еса расказвала пра гераічную барацьбу беларускіх людзей у гады Другой сусветнай вайны. Спектакль у канцы 1950-х — у пачатку 1960-х гадоў выклікаў гарачыя пачуцці гледачоў. Многія ўдзельнікі вайны, калі глядзелі гэтую сцэнічную пастаноўку, плакалі, міжволі перакідваліся думкамі ў час вайны і зноў перажывалі за сцэнічных герояў, як за сваіх сяброў.

У 1961 годзе Міхаіл Фрыдман паставіў спектакль "Кухарка" па п'есе А. Сафронава. Працягам гэтай камедыі праз год стаў спектакль "Кухарка замужам". Як з добрымі знаёмымі гледачы сустрэліся з кубанскімі калгаснікамі Паўлінай і Сцяпанам Казанцамі, Галінай Чайкай, Андрэем Пчолкам і іх сябрамі. Хаця ў новым спектаклі былі тыя ж лірычныя канфлікты, аднак многае змянілася. Цяпер ужо Паўліна і Галя адчувалі сваю жаночую перавагу над мужамі. Узнікалі новыя непаразуменні. Але па-ранейшаму ў зале не сціхаў смех. У спектаклі было шмат гумару, рэжысёрскай фантазіі, імправізацыі акцёраў. Пра ўсе спектаклі Слонімскага народнага тэатра тады пісалі многія газеты і часопісы. Кожная прэм'ера ў пастаноўцы Міхаіла Фрыдмана асвятлялася ў друку.

У сярэдзіне 1960-х гадоў Міхаіл Фрыдман развітаўся са слонімскім тэатральным калектывам. А яго ў 1968 годзе замяніў Мікалай Варвашэвіч.

●*Сяргей Чыгрын*




***Будынак былога Народнага дома, а пасля — Раённага дома культуры. Цяпер на гэтым месцы пабудаваны тэатр.***

*З АРХІВАЎ*

# Як Хведар Жыткевіч з Сялявічаў звязаўся з беларускімі палітычнымі партыямі


Cana asobnaha numaru 20 hr.    U hetym numary 6 staronak.    Przesyłka opłacona ryczałtem.
Nr. 7.    Wilnia, Piatnica 11 Lutaha 1927 h.    Hod III (XI).

BIEŁARUSKAJA KRYNICA

PALITYČNAJA, HRAMADZKAJA i LITERATURNAJA HAZETA.

Adres Redakcyi i Administracyi: Wilnia, Połackaja wul. 4—10. (Wilno, Połocka 4—10). Redakcyja adčyniena ad 9 hadz. ran. da 6 hadz. wieč.

„B. Krynica" kaštuje: na hod—8 zał., na paŭhoda —4 zał., na 3 miesiacy—2 zał., na 1 miesiac—1 zał. HAZETA WYCHODZIĆ RAZ U TYDZIEŃ.

Cana abwiestak: na 1-šaj staroncy 30 hr., 2 i 3 — 25 hr., na 4-aj — 20 hroš.—za radok drobnaha druku ŭ wadnej pałoscy.

У пачатку лютага 1927 года рэдакцыя віленскай газеты “Беларуская крыніца” атрымала ліст з вёскі Сялявічы са Слонімшчыны. Напісаў яго беларускай лацінкай Хведар Жыткевіч. Падаем ліст з праўкамі, з адаптацыяй да сучаснага правапісу. Ён друкуецца ўпершыню.

**“Шаноўна[я] Рэдакцыя!**

Вельмі пажаданым мне чытаць Вашу газету “Крыніцу”, але хоць брыдка прасіць, але прымушае мяне недастатак. Але не магу застацца без вашага і праўдзівага пісьма (выдання — СЁ), і калі можаце, то прашу высылайце мне “Крыніцу”. Як буду магчы, то пастараюся заплаціць вам, дарагія прыяцелі. У цяперашнім часе не магу з прычыны неўраджаю. Яшчэ, дарагія прыяцелі, прашу вас, выт[л]умачце мне, чы варт[а] належаць да гэтых арганізацый, каторыя ў нас у вёсцы знаходзяцца: адна польска[я —] “Kółko Rolnicze”, а другая [—] Бел[аруская] Грам[ада]. Я, маючы вас за хрысціян і сваіх прыяцеляў, вытлумачце мне, што гэта за арганізацыі і якія іх кірунак і іх [неразборліва]. І яшчэ вас прашу, не перарывайце прысылаць мне газет, буду старацца заплаціць і пашыраць праўдзіва[е] пісьмо. Прашу, выбачайце, што спазніўся з сваім пісьмом і прашу пра вышэй згаданыя арганізацыі вытлумачэння.

Выбачайце, што кепска напісана, бо лепш не ўмею.

З павагай да вас
**Фёдар Жыткевіч**
Селявічы
пошта Азярніца
пав[ет] Слонім[скі]”.*

У газеце гэты ліст не друкаваўся. Аднак рэдакцыя дала адказ слонімцу праз рубрыку “Наша пошта”:

“Жыткевічу Тодару: Высылкі газеты Вам не перарываем; да “Kółek Rolniczych” уступаць не варта, бо іх арганізуюць абшарнікі, паны; у Грамаду належыць цяпер не можаце, бо яна зліквідавана [польскімі ўладамі]. Уступайце ў нашу партыю, якая называецца Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя, альбо ў Сялянскі Саюз — таксама паважная партыя. Для азнаямлення з нашай партыяй высылаем Вам праграму і статут. Таксама добра было б, каб Вы залажылі Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры (стварылі суполку гэтай арганізацыі — СЁ)”.

Праз месяц у газеце друкаваўся спіс асобаў, якім былі высланы праграмы, статуты, інструкцыі і заявы БХД. Сярод іх згадваецца і Жыткевіч Тодар са Слонімшчыны.*** Аднак пакуль невядома, ці ўступіў ён у БХД, ці займаўся ў вёсцы беларускай дзейнасцю. Спадзяемся, з часам гэтыя пытанні ўдасца высветліць.

Вядома, што ў Сялявічах пры “першых саветах” быў арыштаваны нехта Фёдар Жыткевіч, а яго сям’ю выслалі ў Архангельскую вобласць Расіі. Ці гэта той самы чалавек? Трэба спраўдзіць, бо часам у адной вёсцы было некалькі мужчын з аднолькавымі імёнамі і прозвішчамі. Згаданы Жыткевіч вырваўся з савецкай турмы летам 1941 года пасля нападу Германіі на СССР. Ён вярнуўся ў Сялявічы і жыў у роднай вёсцы. Паводле звестак разведкі савецкіх партызан, уваходзіў у склад нейкай польскай падпольнай антынацысцкай арганізацыі.**** Далейшы лёс яго невядомы.

●***Сяргей Ёрш***

**Беларускі дзяржаўны архіў літаратуры і мастацтва, ф. 3, воп. 1, спр. 43, арк 29.*

***Naša pošta // Biełaruskaja krynica, 1927, № 7, 11 лютага.*

****Z žyćcia BChD // Biełaruskaja krynica, 1927, № 11, 11 сакавіка.*

*****Ёрш С. Дакументы пра дзейнасць польскага падполля на Слонімшчыне // Слонімскі край, 2016, № 10. Лістапад. С. 10.*

“Слонімскі край” можна чытаць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”: http://kamunikat.org/

Krynica

~~28~~ 29

Šanoŭna Redakcyja!
Wielmi pažadanym mnie čytać waši
gazetu Krynicu ale choć brydko prasić ale
prymušaje mianie niedastatak, a ja niemahu
ostatsia bez wašaho i prawdziwaho pisma i kali
možacie to prašu wysyłajcie mnie Krynicu
jak budu machčy to pastarajusia zapłacić
wam darahia pryjacieli a ciapierašnim času
niemahu z pryčyny nie uražaju. Jašče
darahia pryjacieli prašu was wytłumačcie
mnie čy wart naležać da hetych arhanizacyj
katoryja u nas u wioscy znachodziacca adna
polska „Kółko Rolnicze" a druhaja Biel. Hram.
I ja mahčy was za prasiam i swaich pryjacialoŭ
wytłumačcie mnie što heta za arhanizacyj i
jaki ich kirunak i ich [illegible] i jašče
raz prašu nie pierastawajcie prysyłać mnie
gazet budu staracca zapłacić i pasyłać
prawdziwo pismo prašu wybačajcie što apa-
zniŭsia z swaim pismom i prašu ab hetych
spomnianych arhanizacyjach wytłumačcie
wybačajcie što kepsko napisano bo lepej
nie umieju. Z pawažaniam kadam
Fiodor Žytkiewič Sielawicze
pocz. Jeziernica pow. Słonim

Wysłany [illegible] 17/V 27

Ліст Хведара Жыткевіча ў рэдакцыю "Беларускай крыніцы", 1927 г. Друкуецца ўпершыню.

# Слонімскі гандаль у сярэдзіне 1920-х гадоў



*Гандлёвая плошча ў Слоніме ў міжваенны час. Злева можна пабачыць гандлёвыя павільёны ("будкі").*
***Фота: polona.pl***

"СК" працягвае друкаваць спіс фірмаў (пачатак гл. у № 1(23) за студзень 2018 года), якія ў 1925 годзе займаліся ў Слоніме гандлем, працавалі ў сферы грамадскага харчавання.

**"Fejga Reznikowska"**. Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1923. Слонім, Школьны Двор, 5 (цяпер — Савецкая вуліца, участак ад галоўнай сінагогі да Першамайскай вуліцы). Уладальніца — Фэйга Рэзнікоўская. Яна таксама жыла на вуліцы Школьны Двор.

**"Judel-Chaim Rozenberg"**. Гандаль скурамі. Год заснавання — 1916. Слонім, вул. Андрэеўская, 14 (цяпер — на тэрыторыі рынку). Уладальнік — Юдэль-Хаім Розэнберг. Ён жыў у тым жа доме.

**"Rozalja Kowszun".** Кавярня. Год заснавання — 1922. Слонім, вул. 3 Мая (цяпер — Чырвонаармейская), 73. Уладальніца — Разалія Коўшун. Яна жыла ў тым жа будынку. Атрымліваем загадку, бо па той вуліцы пад нумарам 73 быў дом паэта Гальяша Леўчыка! Праўда, для кавярні ён быў малы, стаяў нязручна — у цэнтры агароду, далёка ад вуліцы. Можа ўсё ж адбылася памылка ў нумарацыі?

**"Mejer Szternfeld".** Сталовая. Год заснавання — 1908. Слонім, вул. Шаптыцкага, 1 (верагодна, гэта адзін з участкаў цяперашняй вуліцы Янкі Купалы). Уладальнік — Меер Штэрнфэльд. Ён жыў у тым жа доме.

**"Berko Swietycki".** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвыя рады, № 119. Уладальнік — Бэрка Светыцкі. Ён жыў у Слоніме на Ружанскай вуліцы, 43.

**"Mozes Sołowiej".** Гандаль рэшткамі палатна. Год заснавання — 1914. Слонім, Гандлёвая вуліца, Гандлёвыя рады, 128. Уладальнік — Мойша Салавей. Ён жыў у Слоніме на вуліцы Шаптыцкага, 41.

**"Aron Szwarc".** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1912. Слонім, Гандлёвыя рады, № 112. Уладальнік — Арон Шварц. Ён жыў у Драўляным завулку, 5.

**"Chaja-Judes Szkurowska".** Гандаль глінянымі гаршчкамі. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвыя рады, № 113. Уладальніца — Хая-Юдэс Шкуроўская. Яна жыла на Бернардынскай вуліцы (цяпер — Васі Крайняга), 30.

**"Minia Udała".** Кавярня-кандытарская і гандаль півам. Год заснавання — 1920. Слонім, Парадная (цяпер — Першамайская, ніжняя яе частка), 20. Уладальніца — Міня Удалая. Яна жыла там жа.

**"Mowsza Wołkomirski".** Гандаль мясам. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 25. Уладальнік — Моўша Валкамірскі. Ён жыў там жа.

**"Chaja Josielewska-Kiedes".** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1921. Слонім, вуліца Сянкевіча (цяпер — Першамайская, верхняя яе частка), 8. Уладальніца — Хая Ёселеўская-Кедэс. Яна жыла на Бернардынскай вуліцы, 24.

**"Sara Wołochwiańska".** Гандаль малочнымі прадуктамі. Год за-

снавання — 1908. Слонім, вуліца Сянкевіча, 21. Уладальніца — Сара Валахвянская. Яна жыла ў Школьным завулку, 13.

**“Rachil Wolańska”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1910. Слонім, вуліца 3 Мая, 78. Уладальніца — Рахіль Валанская. Яна жыла там жа.

**“Szmuel Wołkomirski”.** Гандаль гатовым адзеннем і рэшткамі палатна. Год заснавання — 1922. Слонім, Гандлёвыя рады, № 110. Уладальнік — Шмуль Валкамірскі. Жыў па Андрэеўскай вуліцы, 24.

**“Małka Wolyńska”.** Гандаль галантарэйнымі таварамі і гатовым адзеннем. Год заснавання — 1921. Слонім, Гандлёвыя рады, № 106. Уладальніца — Малка Валынская. Жыла ў Слоніме на Царкоўнай вуліцы, 6.

**“Abram Zaklos”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1911. Слонім, Гандлёвая плошча (цяпер — плошча Леніна), 13. Уладальнік — Абрам Заклас. Ён жыў у Слоніме ў Крывым завулку, 26.

**“Złata Zakhejm”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвая плошча, 21. Уладальніца — Злата Закхэйм. Жыла ў Слоніме ў Школьным завулку, 10.

**“Dwejra Morduchowicz”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1925. Слонім, Берагавая вуліца, 5. Уласніца — Двейра Мардуховіч. Яна жыла там жа.

**“Hirsz Jalecki”.** Гандаль прадуктаў харчавання і тытунёвымі вырабамі. Год заснавання невядомы, у рэестр унесены ў лістападзе 1924-га. Слонім, вуліца Шаптыцкага, 30. Уладальнік — Гірш Елецкі. Ён жыў там жа.

**“Hirsz Jeroszewicz”.** Гандаль мясам. Год заснавання — 1876. Слонім, вуліца Школьны Двор, 4. Уладальнік — Гірш



*Крамы на Маставой вуліцы (цяпер — Янкі Купалы).*

Ярашэвіч. Ён жыў там жа.

**“Pejsach Ickowicz”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1920. Слонім, вуліца 3 Мая, 31. Уладальнік — Пэйсах Іцковіч. Ён жыў там жа.

**“Fejga Joffe”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1920. Слонім, Гандлёвая вуліца, 25. Уладальніца — Фейга Іофе. Яна жыла там жа.

**“Mendel Kacowicz”.** Гандаль мясам. Год заснавання — 1889. Слонім, Школьны Двор, 3. Уладальнік — Мендзель Кацовіч. Ён жыў там жа.

**“Chaim Kwiat”.** Гандаль печывам. Слонім, вуліца Берагавая, 15. Год заснавання — 1898. Уладальнік — Хаім Квят. Ён жыў там жа.

**“Gitla Kiszczycka”.** Гандаль прадуктамі харчавання і абуткам. Нрл заснавання — 1924. Слонім, Гандлёвыя рады, № 40. Уладальніца — Гітля Кішчыцкая. Яна жыла ў Слоніме на Студэнцкай вуліцы, 6.

**“Sora Kwiat”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1921. Слонім, вуліца 3 Мая, 10.

**“Basia Lachowicka”.** Гандаль прадуктамі харчавання. Год заснавання — 1918. Слонім, Гандлёвая вуліца, 29. Уладальніца — Бася Ляхавіцкая. Яна жыла на вуліцы 3 Мая, 65.

**“Basia Lewit”.** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1921. Слонім, вуліца 3 Мая, 13. Уладальніца — Бася Левіт. Яна жыла там жа.

**“Zawel Mendelewicz”.** Гандаль мясам. Год заснавання — 1922. Слонім, Школьная вуліца, 4. Уладальнік — Завэль Мендэлевіч. Ён жыў там жа.

**“Frejda Oguszewicz”.** Гандаль абуткам уласнага вырабу. Год заснавання — 1920. Слонім, Гандлёвыя рады, № 98. Уладальніца — Фрэйда Агушэвіч. Яна жыла на Андрэеўскай вуліцы, 14.

**“Gela Lachowicka”.** Гандаль галантарэйнымі таварамі. Год заснавання — 1902. Слонім, Гандлёвыя рады, № 127. Уладальніца — Гэля Ляхавіцкая. Яга жыла на Царкоўнай вуліцы, 22.

*Публікацыя* ●***Сяргея Ярша.***

*Працяг у наступным нумары*

*Працяг у наступным нумары*



# Адвакат і дэпутат Уладзімір Якубсон

Споўнілася 100 гадоў з дня смерці Уладзіміра Раманавіча (Веніяміна Рубінавіча) Якубсона (1861 — 1918), адваката, дэпутата I Дзяржаўнай Думы Расіі ад Гродзенскай губерні. Ён не быў ураджэнцам нашага горада, але ў свой час пакінуў у ім прыкметны след. Якубсон вельмі актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. У адной з публікацый сцвярджаецца, што ён быў старшынёй і сябрам праўлення "амаль усіх грамадскіх установ г. Слоніма".



Уладзімір Якубсон нарадзіўся ў Вільні ў заможнай яўрэйскай сям'і. Бацькі зрабілі ўсё магчымае, каб старэйшы сын атрымаў добрую адукацыю (бацька быў купцом і меў на гэта сродкі). Пасля віленскай гімназіі ён вучыўся ў Казанскім універсітэце, далей — ва ўніверсітэце ў Санкт-Пецярбургу, у 1887 годзе скончыў юрыдычны факультэт. Відаць, пасля гэтага Якубсон і трапіў у Слонім. Спачатку было нязвыкла пасля вялікіх гарадоў. Але праз нейкі час прызвычаіўся, больш таго, хацеў працаваць дзеля дабра Слоніма. А энергіі ў Якубсона хапала.

Працаваў віленчук прысяжным паверанным (адвакатам) пры мясцовым судзе. Пра гэта інфармацыі зусім няшмат. Яго цікавіла палітыка. Па сваіх перакананнях Уладзімір Якубсон быў сацыял-дэмакратам, уваходзіў у яўрэйскую сіяністкую партыю. Дзесьці ў пачатку XX стагоддзя ён арганізаваў у Слоніме "чытанні для народу". Быў сябрам праўлення, сакратаром і памочнікам начальніка дружыны Слонімскага вольнага пажарнага таварыства, сябрам савета яўрэйскай бальніцы, адным з кіраўнікоў Таварыства дапамогі бедным яўрэям г. Слоніма...

Паступова Якубсон стаў асобай вядомай. Не дзіўна, што ў сакавіку 1906 года ён быў абраны ў Дзярждуму, уваходзіў у склад думскай фракцыі "Працоўная група". Выступаў смела, быў у складзе камісіі, якая расследавала абставіны яўрэйскага пагрому ў Беластоку, яму пагражалі. У ліпені 1906-га, пасля роспуску царом Дзярждумы, Уладзімір Якубсон быў у ліку дэпутатаў, якія падпісалі адозву, якая заклікала да пасіўнага супраціву ўладам. За гэта адвакат адсядзеў тры месяцы ў турме і быў пазбаўлены выбарчых правоў, не мог ён ужо абірацца ў Дзяржаўную думу.

Да палітыкі Якубсон вярнуўся пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года, уступіў у Працоўную народна-сацыялістычную партыю. Але жыць Якубсону засталося ўжо зусім мала. Пра абставіны яго смерці і пра месца пахавання нічога невядома.

Варта згадаць, што ва Уладзіміра Якубсона былі дзве дачкі. Пра Міну амаль нічога невядома, а Ірма жыла ў Маскве, працавала ўрачом-педыятрам. Дачка Ірмы Эла Уладзіміраўна Брагінская (1926 — 2010) была вядомым расійскім перакладчыкам з іспанскай мовы.

**●*Генадзь Гурскі***



ЧЛЕНЫ
НЕ КОПИРОВАТЬ
ГОСУДАРСТВЕННОЙ ДУМЫ
(ПОРТРЕТЫ И БІОГРАФІИ).

Первый созывъ
1906—1911 г.
(Сессія продолжалась съ 27 апрѣля по 9 іюля 1906 г.).

Составилъ
М. М. Боіовичъ.

Изданіе
Т-ва И. Д. Сытина.



עו"ד ז. יעקובסון, חבר הדומה הרוסית השניה
W. Jacobson, lawyer, member of the second "Duma"



ГРОДНЕНСКАЯ губернія.

ЯКУБСОНЪ,
ВЛАДИМІРЪ РОМАНОВИЧЪ.

Родился въ 1861 г. Трудовикъ.

Еврей. Присяжный повѣрен. изъ гор. Слонима. Окончилъ юридич. факультетъ Спб. университета.

84

# Трагічны лёс слонімскай прыгажуні



*Ядзя Сарачынская*

Пра прыгожую слонімскую дзяўчыну Ядзю Сарачынскую я ўпершыню пачуў ад беларускага гісторыка з Варшавы Юрыя Туронка. Ён пытаўся ў мяне пра Сарачынскую і прасіў знайсці яе фотаздымак. Ніякіх яе сваякоў на Слонімшчыне мне адшукаць не ўдалося. А вось з фотаздымкам дапамог зямляк з ЗША Барыс Данілюк (1923 — 2011). Ён прыслаў яе партрэт, які я выслаў Туронку. Гісторык упершыню апублікаваў партрэт слонімскай прыгажуні ў сваёй кнізе "Людзі СБМ" (Вільня, 2006).

Ядзя (Ядзвіга) Сарачынская сапраўды была прыгожай слонімскай дзяўчынай і вельмі адукаванай. Невыпадкова яе падчас Другой сусветнай вайны перакладчык слонімскага гэбіцкамісара Эрэна Юрый Пыцель рэкамендаваў для працы ў канцылярыі гэбіцкамісарыяту. Тым больш, што ў 1943 годзе ў канцылярыі вызвалілася месца, якое займала сланімчанка Кацярына Ленка. Яе немцы выслалі ў Берлін на курсы, там яна выйшла замуж і больш не вярнулася ў Слонім.

Ядзя Сарачынская нарадзілася ў 1926 годзе. Магчыма, што ў Слоніме. Спачатку дзяўчына працавала перакладчыцай ў Слонімскім гэбіцкамісарыяце. Потым, калі быў створаны Саюз беларускай моладзі ў Альбярціне, была кіраўніцай дзявочай арганізацыі СБМ у Слонімскай акрузе. Яе дзейнасць вельмі хваліў сам акруговы камісар Герхард Эрэн: "Паспяховая дзейнасць моладзі ў Слонімскай акрузе — гэта перш за ўсё заслуга акруговай кіраўнічкі юначак, вынік яе ўзорнай працы".

Напачатку верасня 1943 года Слонім наведаў генеральны камісар Генеральнае акругі "Беларусь" Райхскамісарыяту "Остлянд" Вільгельм Кубэ. Яго прывітальным словам і букетам кветак шчыра вітала Ядзя Сарачынская. Гэта была апошняя вандроўка Кубэ. У ноч з 21 на 22 верасня 1943 года ён быў забіты ў Мінску.

Падчас адступлення немцаў Ядзя Сарачынская разам з іншымі беларускімі дзеячкамі эвакуіравалася ў Германію ў горад Заўльгаў. Там дзяўчына дачакалася канца вайны. Пасля яна працавала ў французскай акупацыйнай адміністрацыі ў Германіі. У 1949 годзе




сланімчанка выйшла замуж за Адамчука (хутчэй за ўсё гэта быў слонімскі хлопец) і яны разам пераехалі на пастаяннае месца жыхарства ў Аўстралію.

У Аўстраліі Сарачынская-Адамчук разам з мужам жыла ў горадзе Пэрт. Дзяўчына ўладкавалася на працу ў мясцовы аэрапорт, тым больш, што яна валодала некалькімі замежнымі мовамі. Напачатку 1960-х гадоў Ядзя зацяжарыла і падчас родаў памерла. Ці засталося жыць дзіця слонімскай прыгажуні, які лёс напаткаў яе мужа ў далёкай Аўстраліі — ніхто з беларускіх эмігрантаў ніколі не згадваў. Можа пасля гэтай публікацыі адгукнуцца сваякі Ядзі Сарачынскай.

●*Сяргей Чыгрын*



*Ядзя Сарачынская (сядзіць першая справа) са слонімскімі дзяўчатамі, Слонім, 1943 год. Фота з архіва аўтара.*

# Пра сустрэчу слонімскіх паэтаў са старшынёй Саюза пісьменнікаў БССР

У архіве паэта Сяргея Новіка-Пеюна (1906 — 1994), які захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук, захоўваецца машынапісная копія артыкула са слонімскай газеты “Вольная праца” ад 10 кастрычніка 1939 года (№ 5). Ён прысвечаны сустрэчы ў нашым горадзе мясцовых паэтаў са старшынёй Саюза пісьменнікаў БССР Міхасём Лыньковым (1899 — 1975). Артыкул не вельмі інфармацыйны, але ўтрымлівае невядомы даследчыкам факт — на сустрэчы прысутнічаў паэт Язэп Вількоўшчык (Іосіф Вількоўскі, 1898 — 1984). Ён актыўна друкаваўся ў заходнебеларускіх выданнях міжваеннага часу, а пасля Другой сусветнай вайны замаўчаў, відаць, “пісаў у стол”, але яго архіў не захаваўся. Першая кніга Вількоўшчыка выйшла толькі ў часы незалежнай Беларусі, у 2015 годзе.*




*Міхась Лынькоў (злева), Янка Купала (у цэнтры), справа ад яго Максім Танк, 1939 год. Фота: БЕЛТА*

**Старшыня Саюза пісьменнікаў Совецкай Беларусі ў Слоніме**

8 кастрычніка заехаў да нас у Слонім Старшыня Саюза Пісьменнікаў Совецкай Беларусі — пісьменнік ордэнаносец тав. Міхась Лынькоў. У рэдакцыі нашай газеты “Вольная Праца” спаткаўся тав. Лынькоў з прадстаўнікамі заходнебеларускага літаратурнага маладняка, якія паінфармавалі яго аб жыцці літ. маладняка пад панскім ярмом.

Прысутнічалі на спатканні літмаладнякоўцы — С. Хмара, А. Івэрс, С. Пяюн, Я. Вількоўшчык і стары паэт Гальяш Леўчык.

Тав. Лынькоў расказаў аб жыцці пісьменнікаў у Совецкай Беларусі і іх творчасці.

Тав. Лынькову ад імені вызваленага Заходне-Беларускага маладняка прыпаднесены ручныя кайданы, у якіх не раз хадзілі за сваю творчасць нашыя літ. маладнякоўцы ў часы панскай улады, каб пабачылі пісьменнікі свабоднага народа[,] якую ўзнагароду атрымоўваў рабоча-селянскі літ. маладняк Зах. Беларусі ў жахлівай, жудаснай мінуўшчыне.

Стыль зацемкі і тое, што менавіта Сяргей Хмара названы першым сярод слонімскіх паэтаў, паказвае на яго, як на яе аўтара. Пра згаданую сустрэчу было вядома і з іншых крыніц. Той самы Сяргей Новік-Пяюн напісаў пра яе ўспамін, у якім ёсць пра падарунак-кайданкі, пра Леўчыка, які “горача вітаў” Лынькова ды пакрытыкаваў за паланізмы ў творах некаторых беларускіх савецкіх пісьменнікаў. У той жа вечару Народным доме адбыўся ўрачысты сход, на якім выступаў Гальяш Леўчык, чытаў свае творы.**

Пройдзе няшмат часу і шляхі ўдзельнікаў той сустрэчы ў рэдакцыі “Вольнай працы” разыдуцца назаўжды. Гальяш Леўчык у канцы восені 1939-га выехаў у Варшаву. Сяргей Хмара быў арыштаваны савецкімі спецслужбамі, са зняволення вырваўся летам 1941-га, пасля вайны жыў у Канадзе. Сяргей Новік-Пяюн прайшоў і нямецкія, і савецкія канцлагеры. Іван Міско (Анатоль Іверс) жыў у Слоніме, улады доўгі час не прызнавалі антыфашысцкае падполле, якое ён ачольваў у гады вайны.

●***Сяргей Ёрш***

**Язэп Вількоўшчык. Прыкрыты сэрца боль: з літаратурнай спадчыны (укладальнікі С. Ёрш і С. Чыгрын). — Мінск, 2015.*

***Новік-Пяюн С. Дзядзька Гальяш // Гальяш Леўчык. Доля і хлеб: Выбраныя творы. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1980. С. 168.*

# Гісторыя Азярніцы ў артэфактах

У Слонімскай друкарні пабачыла свет кніга Міхаіла Шуляка “Па следу продкаў”. Міхаіл жыве ў Слоніме, родам ён з вёскі Азярніца Слонімскага раёна. Гісторыяй сваёй вёскі ён зацікавіўся даўно. “Па следу продкаў” — першае даследаванне краязнаўца.

Прадмову да кнігі напісаў загадчык вучэбнай лабараторыі музейнай справы гістарычнага факультэта БДУ Віталь Сідаровіч. Ён адзначыў, што важным момантам, які адрознівае гэтую кнігу ад шэрагу падобных (на першы погляд) публікацый, з’яўляецца актыўнае выкарыстанне матэрыяльных сведчанняў — археалагічных артэфактаў, манет і г. д. Гэта дазволіла аўтару пазбегнуць шаблоннага перапісвання чужых думак. А ў некаторых частках кнігі артыкулы з’яўляюцца сапраўдным навуковым даследаваннем. Варта падкрэсліць, што шэраг археалагічных артэфактаў у кнізе апублікаваны ўпершыню, што робіць гэтае выданне важным для археалагічнай навукі.

Сапраўды, Міхаіл Шуляк шмат гадоў шукае сляды продкаў каля роднай вёскі Азярніца на Слонімшчыне. Знойдзеныя артэфакты і ляглі ў аснову краязнаўчага даследаванння.

Кніга Міхаіла Шуляка распачынаецца вершам “Сінявокая Азярніца”, які напісала яго маці. Гэта верш-прызнанне ў любові да роднай вёскі, якая з’яўляецца і “радасцю песні, і горыччу тугі”. Верш і распачынае сцяжыну ў мінулае і сучаснае вёскі Азярніца.

Аўтар падзяліў сваё даследаванне на некалькі частак. У першай частцы размова ідзе пра каменны і бронзавы вякі на тэрыторыі каля Азярніцы. Як мяркуе Міхаіл Шуляк, на тэрыторыі, дзе зараз знаходзіцца вёска, чалавек ўпершыню з’явіўся не пазней за канец каменнага — пачатак бронзавага вякоў. А самай старажытнай знаходкай, якую ўдалося адшукаць у раёне Азярніцы, на думку Шуляка, з’яўляецца бронзавая сякерка. Яе вага складае толькі 116 грамаў. Гэта адзіная знаходка часоў бронзавага веку каля вёскі Азярніца. І, як мяркуе аўтар кнігі, гэтая знаходка пацвярджае, што на азярніцкай тэрыторыі яшчэ ў перыяд ранняй бронзы прысутнічалі плямёны культуры шнуравой керамікі, якія мелі даволі трывалыя сувязі з прадстаўнікамі іншых культур. “Менавіта падчас кантактаў з суседзямі і атрымлівалася, шляхам абмену, здабываць медныя або бронзавыя прадметы, якія яшчэ доўгі час, амаль да пачатку нашай эры, лічыліся дэфіцытам і масава не распаўсюджваліся”, — піша аўтар кнігі “Па следу продкаў”.




Другі раздзел — жалезны век на азярніцкай тэрыторыі. Тут аўтар распавядае пра шыйную грыўню, якая была знойдзена каля вёскі Варонічы, а гэта далей ад Азярніцы. Знойдзены артэфакт датуецца прыблізна V-III стст. да нашай эры і з’яўляецца адзінай падобнай знаходкай на тэрыторыі Беларусі. Гэтую шыйную грыўню аўтар кнігі перадаў у музей гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Самай старажытнай знаходкай часоў жалезнага веку каля Азярніцы з’яўляецца срэбная манета — парфянская драхма Фраата IV, які правіў з 38 па 2 гг. да нашай эры. Выяўлена каля Азярніцы і вочкавая фібула (зашпілька на адзенні) прускага тыпу канца першага — пачатку другога стагоддзяў нашай эры. Згадвае аўтар у сваёй кнізе і знаходку антычных часоў з-пад Азярніцы — гэта прывеску-званочак III-IV стст. Званочак выкарыстоўваўся ў якасці ўпрыгожвання. Не менш цікавую знаходку прыгадвае аўтар — гэта спінкі для прагнутых двучленных падвязных фібул, якія датуюцца IV ст. — пачаткам V ст. нашай эры. Як сцвярджае Міхаіл Шуляк, познія знаходкі жалезнага веку з тэрыторыі каля вёскі Азярніца адсутнічаюць.

У раздзеле перыяду Сярэднявечча аўтар прыгадаў не толькі знойдзеныя артэфакты, але і пра настаяцеля Сынковіцкай царквы Яўстафія Міхайлоўскага, які шмат зрабіў для гэтага храма, а таксама займаўся археалагічнымі пошукамі. Ён раскапаў адзін курган у ваколіцах Азярніцы ў 1892 годзе і знайшоў колца з белага металу, розныя пліткі, кавалкі дрэва і г. д. Сам аўтар каля Азярніцы адшукаў толькі два артэфакта — гэта бранзалет XI — XIII стагоддзяў і фрагмент падковападобнай фібулы. З перыяду Сярэднявечча Міхаіл Шуляк знайшоў і апісаў свінцовы амулет-сякерку, пломбу і бочкападобную дзірхамную гірку IX-XIII стагоддзяў…

Спіс розных артэфактаў, знойдзеных у ваколіцах Азярніцы аўтарам кнігі і цікава апісаных, можна працягваць яшчэ доўга. Па сутнасці кніга Міхаіла Шуляка — гэта археалагічна-краязнаўчае даследаванне вёскі Азярніца і навакольных вёсак. Таму кніга “Па следу продкаў” смела можа з’яўляцца добрай дыпломнай працай выпускніка гістарычнага факультэта. А калі яе пашырыць, дапоўніць рознымі іншымі артэфактамі — яна цягне на кандыдацкую дысертацыю.

Дарэчы, у кнізе апублікавана шмат фотаздымкаў, а таксама акты прыёмаў выяўленых археалагічных артэфактаў і іншыя дакументы. Многія археалагічныя знаходкі Міхаіл Шуляк бясплатна перадаў у вучэбную лабараторыю музейнай справы гістарычнага факультэта БДУ і ў краязнаўчы музей Слонімскай гімназіі.

●*Сяргей Чыгрын*

КНІГАРНЯ

# Пра лёс сям'і Пякарскіх




У Слонімскай друкарні выйшла ў свет кніга на рускай мове "Свет радостей и мрак печалей" Лідзіі Міхайлаўны Пякарскай, якая 45 гадоў аддала педагагічнай працы на Слонімшчыне. Гэта ўнікальная кніга, дзе на 290 старонках аўтарка напісала пра лёс сям'і Пякарскіх, пачынаючы ад сваіх дзядоў і завяршаючы жыццём і справамі сваіх праўнукаў. Кніга гэта сямейная, свая, родная, дарагая, шчырая. Яна з'яўляецца падарункам для самых блізкіх і родных людзей, каб ведалі і не забывалі свой род, сваіх дзядоў і прадзедаў.

Лідзія Міхайлаўна — філолаг, апантаны ў жыццё і цікавы чалавек. Родам яна з вёскі Махначы Слонімскага раёна. У 1934 годзе яе сям'я пераехала на пастаяннае жыхарства на хутар вёскі Хмяльніца. Спачатку дзяўчынка вучылася ў Хмяльніцкай школе. А потым скончыла 7 класаў Рахавіцкай сямігодкі. Вучылася ў Ваўкавыскім педвучылішчы і завочна скончыла філфак Гродзенскага педінстытута. Працавала настаўніцай ў Рахавічах, Міжэвічах, у слонімскіх сярэдніх школах № 5, 10, а затым шмат гадоў была дырэктарам СШ № 3. У 1996 годзе пайшла на заслужаны адпачынак. У яе сёння сотні былых вучняў і настаўнікаў, якія працуюць у розных кутках свету. А тыя педагогі, што працавалі з Лідзіяй Міхайлаўнай у СШ № 3. памятаюць, як дырэктар шчыра адносілася да сваіх калег, як яна ніколі і нідзе не давала ў крыўду сваіх настаўнікаў, а заўсёды іх абараняла і любіла.

Сямейнай кніга Лідзіі Пякарскай складаецца з 21-й часткі, прадмовы і заключэння. На ўсіх старонках аўтарка шчыра распавядае пра дзядулю і бабулю па лініі бацькі, па лініі маці, пра братоў і сясцёр бацькі, пра тое, як замуж выходзіла яе маці, пра бежанства і вайну, пра братоў і дзяцей, унукаў і праўнукаў. Кніга хоць прыватная, але вельмі цікава чытаецца, у ёй прафесійна апісаны розныя жыццёвыя сітуацыі, падзеі, радасці і горычы. Гэта не проста выданне, а архіўны дакумент роду Пякарскіх.

У кнізе "Свет радостей и мрак печалей" Лідзіі Міхайлаўны Пякарскай шмат фотаздымкаў. Ёсць вельмі рэдкія — гэта фотаздымкі бабулі Еўдакіі Бараноўскай, якая сфатаграфавана з сынам Пятром і дачкою Вольгай (будучай мамай аўтаркі) у 1914 годзе. Прыцягвае ўвагу і здымак настаўнікаў СШ № 5 г. Слоніма 1955 года…

Вядома ж, падобныя кнігі маглі б напісаць у кожнай беларускай сям'і і пра кожную сям'ю. Але ж гэта ў нас на жаль бывае рэдка. Кніга Лідзіі Міхайлаўны Пякарскай — своеасаблівы помнік беларускай сям'і Пякарскіх са Слонімшчыны.

● *Сяргей Чыгрын*

**"Слонімскі край"** — гісторыка-краязнаўчае электроннае выданне. Выходзіць раз на месяц.

Заснаванае ў лютым 2016 года

Рэдактар нумару *Сяргей Чыгрын*.

Наш адрас: **slonimskikraj@gmail.com**
Спасылка на "СК" пры передруку абавязковая.